ISSN 0700-5172

*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! – К. Каліноўскі*

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ



# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў

ZVAZAJ – Quarterly magazine, published by Liaison Comm. of Byelorussian War Veterans
*Address: KSBV, 57 Riverdale Ave. Toronto, Ont. M4K 1C2*

Год 5 | Сьнежань, 1978 | № 4(12)

## ПОСТУП РУСЫФІКАЦЫІ

Зьмешчаныя здымкі ўзяты зь менскага часапісу "Беларусь", №9 за верасень 1978 г. Там-жа чытаем, што "празьвінеў першы званок новага, трэцяга ў рэспубліцы ўнівэрсытэту" ў Горадні.

Кажную новую навуковую інстытуцыю, ды асабліва-ж вышэйшую, выпадала-б вітаць ды жадаць ёй посьпехаў.

Але ці варта вітаць Горадзенскі ўнівэрсытэт? З таго скупога паведамленьня ў часапісе "Беларусь" можна даведацца, што гэта за новая цаца.

Перадусім характарызуе яе галоўная шыльда ў расейскай мове. У сваім русыфікатарскім паходзе маскоўскі акупант Беларусі так абнаглеў, што ўжо нат ня лічыць патрэбным скрывацца, беларускае мовы ня ўжывае навет для прапаганды.

У новай навуковай установе мае быць пяць факультэтаў: фізычны, гістарычны, філялёгічны, матэматычны й юрыдычны. А на гістарычным факультэце маюцца быць "тры спэцыяльнасьці: зь гісторыі СССР, усеагульнай гісторыі, гісторыі рэлігіі й навуковага атэізму".

Як бачым, у новым унівэрсытэце ў "сувэрэннай" БССР, канстытуцыя якое гарантуе Беларусам розныя, у тым ліку й нацыянальныя правы, не знайшлося месца для выкладаньня гісторыі Беларусі. Затое-ж, бязумоўна, побач "навуковага" марксізму" упрыпрэжку прыйдзе й "навуковы" атэізм. На тое, каб калечыць беларускую моладзь, сродкі знойдуцца.

Зь "Беларусі" даведваемся, што "унівэрсытэт жыве бурлівым, поўнакроўным жыцьцём. На простай мове гэта знача, што калі студэнты не сьпяваюць песьняў барадатаму Марксу, дык, бяз сумлеву, захоплены надта-ж "навуковым атэізмам". "А кім праз пяць гадоў станууць...?" – пытаецца часапіс. Няцяжка дагадацца: ня толькі пасавецку асьвечанымі прафэсыяналістамі, але некаторыя навет апаратчыкамі бяздушнае антынароднае ўлады. Ці, як сказаў-бы ведамы Мялешка: не адна свая костка чужым мясам абрасьце...

Маскалі ведаюць, што робяць, асноўваючы яшчэ адзін бастыён русыфікацыі Беларусі. Для Беларусаў ня так страшны бальшавіцкі лад, як наступ русыфікацыі, што няўхільна вядзе да зьнішчэньня нашага вялікага й слаўнага народу.

Гэта новая кузьня расейшчыны паўстала на базе пэдінстытуту імя Янкі Купалы. Што сказаў-бы Вялікі Прарок на гэта? Лёгка ўявіць:

*Прыблуды з-над Нявы крывавай,*
*Калі-ж апомніцесь, калі?*
*Зашто стапталі маю славу,*
*Зашто на вісельню ўзьвялі?*



Першыя універсітэцкія студэнты.

**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯД І ПАМЫСНАГА НОВАГА ГОДУ!**

### *НАРОД ПАМЯТАЕ!*

*У двух апошніх нумарах нашага часапісу зъмешчаныя былі ўспаміны нямецкага афіцэра Гасмюлера пра ягонае супрацоўніцтва з адзьдзеламі беларускай антыбальшавіцкай партызанкі "Чорны Кот" пад камандай ген. Вітушкі.*

*У "Гісторыі БССР", т.5, бач. 77-78, (гл. "Зважай" № 3(11), сказана, што "адміністрацыйныя органы на працягу 1945-47 г.г. ліквідавалі на тэрыторыі заходніх абласьцей 814 антысавецкіх груп і ўзброеных банд".*

*Гасмюлер ацэньвае лік удзельнікаў "Чорнага Ката" на 50 тысяч асобаў. Для параўнаньня, лік "барацьбітоў" у балтыцкіх краінах ...даходзіў да 20 тысяч".*

*Акупанты доўгі час не маглі справіцца з нацыянальнай антыбальшавіцкай партызанкай дый сяньня баяцца пра "Чорнага Ката" згадваць. Пра гэта няхай сьветчыць адна зь "нявыдуманых гісторый" А. Карпюка, адбітку якое зьмяшчаем побач у арыгінале.*

*Наш супрацоўнік, што даслаў тую адбітку, піша: "Чорны кот" Карпюка дае важнае пацьверджаньне факту існаваньня й дзейнасьці гэткае арганізацыі з савецкага боку. У накідзе Карпюка не пададзена, у якім гэта месьце беларускім было кафэ "Чорны кот". Ды з таго, што Карпюк вучыўся ў Горадні ў пэдінстытуце, пасьля ў ім сам вучыў, ды быў (а можа й ёсьць) супрацоўнікам "Гродненскае праўды" трэба думаць, што гэта было ў Горадні".*

*Характэрна, што ў савецкай прапагандовай трасянцы, прысьвечанай пацыфікацыі нанава акупаванай Масквой Беларусі пасьля апошняй вайны, "Чорны Кот", як правіла, ня згадваецца.*

*Баяцца акупанты памяці народнай і, відаць, ня маюць адвагі пляваць прыгоньнікам у вочы.*

---

### УВАГА, ЧЫТАЧЫ!

Просім адгукацца пра наш часапіс, пісаць што падабаецца, а што не, паведамляць пра мясцовае жыцьцё беларускіх вэтэранаў, надсылаць матар'ялы для нэкралёгаў са здымкамі.

Залеглым з аплатай чытачом часапіс спыняецца з гэтым нумарам. Нашых паважаных супрацоўнікаў, што прадаюць часапіс па беларускіх асяродках, просім, не адкладаючы, разьлічвацца.

*К.С.Б.В.*

**Карпюк А.**
К 26 Свежая рыба: Аповесці і апавяданні. Мн.: Маст. літ., 1978.— 368 с.

Кнігу складаюць дзве аповесці, апавяданні і вялікі цыкл нявыдуманых гісторый. Аповесць «Свежая рыба» — пра сёняшні дзень нашых людзей, сям'ю настаўніцы і вучонага, пра іх працу і клопаты.

Аповесць «Па кветку шчасця» напісана на матэрыяле з жыцця Заходняй Беларусі і расказвае пра падзеі, сведкам і ўдзельнікам якіх быў сам аўтар.

У апавяданнях раскрываюцца лепшыя рысы нашага чалавека, высмейваецца мяшчанства і перажыткі мінулага ў свядомасці людзей.

К $\frac{70303-081}{М\ 302(05)-78}$ 10—78 **Бел 2**

### ЧОРНЫ КОТ

Ініцыятыўны дырэктар гарадскога парку ў былой аранжарэі зрабіў маладзёжнае кафэ. Звычайнае шкло ў каркасе замяніў каляровым. У фае мастакі паставілі з фанеры чорнага ката з вусамі, з прыязна задраным хвастом, з зялёнымі пражэктарамі вачэй — хітрага і смешнага. Кожнаму, хто ўваходзіў, ён як бы казаў: давай, давай, братка, смялей, мы цябе даўно тут чакаем!..

Адным словам, атрымалася арыгінальна. Моладзь хлынула ў кафэ на танцы. І хоць назва яго афіцыйная была іншая, сваё новае прыстанішча юнакі і дзяўчаты назвалі «Чорны кот».

Камусьці кафэ не спадабалася, і паступіла скарга ў гарком камсамола. У кафэ завітала адна камісія, другая, але нічога не магла сказаць. Наадварот, камсамольцы яшчэ і пахвалілі:

— Мадэрн, па-сучаснаму!

Тады ў былой аранжарэі з'явіўся самы галоўны пенсіянер. Ён удумліва курыў і доўга глядзеў то на рознакаляровае шкло, то на фанернае стварэнне, то на дырэктара. Затым рэзка кінуў папяросу на падлогу растаптаў яе абцасам і сказаў:

— Гм — чорны кот! А вы ведаеце, што калісьці была такая банда?!

Дырэктар наіўна здзівіўся:

— Ага, кажуць, была. Ну і што? Якое гэта мае дачыненне да нашага кафэ?

— Як гэта — «што»?! Спачатку ў маладога чалавека гэтае самае кафэ «Чорны кот». Затым — чорныя думкі. А потым і — чорныя ўчынкі! Вось так у нас і з'яўляюцца бандыты! Годзе, каб не было бандытаў заўтра, кафэ трэба закрыць сёння!

— Тава-рыш пенсіянер! — узмаліўся дырэктар.— Навошта такі максімалізм? Гэтак жа сама я мог бы сказаць і пра вас: вось вы зараз тут у мяне кінулі на падлогу недакурак, заўтра можаце кінуць сваю жонку, паслязаўтра...

— Ты яшчэ замалады мяне вучыць! — затупаў стары чалавек нагамі ды ад злосці зрабіўся аж бурачковы.

І з той пары не стала кафэ «Чорны кот».

—310—

## ЧАМУ САВЕЦКІ САЮЗ
## РАЗБУДОЎВАЕ СВАЮ ВАЕННУЮ МАШЫНУ

Прэстыжовы амэрыканскі часапіс "Ю Эс Нюс энд Уэрлд Рэпорт" за 30-га кастрычніка сёлета падае ацэнку савецкай ваеннай магутнасьці:

1. Амэрыканскія аналісты згодны, што разбудова савецкае ваеннае машыны даўно перасягнула запатрабаваньні абароны краіны. Ніводзін народ ніколі не стварыў такой ваеннай магутнасьці з такой хуткасьцю ў мірны час, за выняткам Гітлеравай Нямеччыны ў 30-х гадох.

2. Савецкі Саюз выдае 13% свае нацыянальнае прадукцыі на ўзбраеньне, а ЗША – адно 5,2%. Савецкі Саюз павялічваў выдаткі на зброю на 4-5% кажны год, а ЗША свае зьмяншала.

3. Дзякуючы гэтым аграмадным выдаткам, Савецкі Саюз перасягнуў у два разы стратэгічныя ядзерныя сілы ЗША падчас апошняга дзесяцігодзьдзя. Масква цяпер перавышае Амэрыку колькасьцю ракетаў, ракетных установак і іх абыймы, што даюць ракетам большую сілу.

4. Згодна ацэны Пэнтагону, каля 1983-га году, савецкія ракетныя ядзерныя сілы, удасканаліўшы сваю акуратнасьць, змогуць зьнішчыць амэрыканскія наземныя ракеты за адным ударам.

5. Савецкія ваенныя людзкія сілы цяпер перавышаюць амэрыканскія ў два разы. Масква трымае цяпер пад зброяй 4,4 міліёна людзей, а Амэрыка 2,1 міліёнаў.

6. Савецкі Саюз мае пяць разоў больш танкаў, значыцца 50 тысяч, а Амэрыка – 10,5 тысяч.

7. Савецкі Саюз мае ўжо большую чымся Амэрыка колькасьць ваенных марскіх суднаў, г. зн. Масква мае 243, а Амэрыка 172 марскіх адзінак розных тыпаў. Брытанскі часапіс "Экономіст" падае, што Савецкі Саюз канчае будаваць дзьве авіяматкі тыпу "Кіеў" і будуе яшчэ шэсьць авіяматак іншага пляну. Марскія сілы даюць Маскве магчымасьць ужываць сваю ваенную машыну далей ад сваіх межаў. Гэтак яна ўжыла свае сілы ў Анголі і Этыёпіі, перавёзшы вялікую колькасьць кубінскіх жаўнераў і зброі.

Амэрыканскі часапіс далей дае інтэрвю ген. Д. Джонсу, старшыню Злучаных Шэфаў Штабу. На пытаньне: "чаму, на Вашу думку, Расейцы прадаўжаюць шырокага маштабу разбудову мілітарных сілаў падчас так званага дэтану?", амэрыканскі генэрал адказаў: "Цяжка сказаць. Нешта ў гэнай разбудове выглядае навет нерацыянальным. Возьмем для прыкладу савецкую сыстэму цывільнае абароны: навошта яны выдаюць на яе адзін міліярд даляраў у год? Чаму прыблізна 70 тысяч людзей, пад камандай генэрала з чатырмя зоркамі, займаецца гэтай праграмай? Чаму яны гэта робяць, калі некаторыя мяркуюць, што яны ня змогуць асягнуць тут ніякае вартаснае мэты?

Мяне турбуе, што мы, здаецца, адлюстроўваем уяву. Мы дасьледуем праблему, ужываючы сваю мерку, наша палажэньне й нашыя вартасьці. Гэткім чынам робім нейкі выснаў дый мяркуем, што й Саветы даходзяць да такога самага выснаву. Гэта небясьпечна. Саветы могуць бачыць сьвет зусім накш чым мы.

Прыкладна, на стратэгічным полі мы ў ЗША ўважаем, што ядзерная вайна ў асноўным навет думкай недапушчальная. Савецкая-ж дактрына гаворыць пра тое, што такая вайна зусім дапушчальная."

Гэтулькі сказаў галоўны амэрыканскі генэрал. Ня трэба забывацца, што на становішчы старшыні Злучаных Шэфаў Штабу, ён павінен гаварыць надта дыпляматычна й асьцярожна, каб не ўкваліць сваіх цывільных гаспадароў. Здаецца, што ген. Д.Джонс дакладна мог-бы адказаць на ўсе вышэйпастаўленыя ім пытаньні.

Ці-ж, запраўды, вялікая ў тым хітрасьць, што бальшавікі бесьперапынна куюць зброю, марнуючы народнае дабро? Ды не. Ведама, што цэлы сьвет хочуць паняволіць, але не абавязкава пры помачы вайны. Бо якая каму карысьць з аатмнага папялішча? Маючы магутную зброю, можна праціўніка запалохаць, шантажаваць ды, пры помачы нутраной дэмаралізацыі дэмакратычных краінаў, узяць іх бяз бою.

## ВЫПРАБАВАНЬНЕ ЛЕЙЗАРА

Сёлета вясной Дэпартамант Абароны ЗША паведаміў, што адбылося пасьпяховае выпрабаваньне лейзара, які зьнішчыў падчас палёту хуткую спрацьтанкавую ракету. Пра гэта пісаў часапіс "Авіэйшан Уік энд Спэйс Тэкнолоджы".

Няведама, ці Пэнтагон мае прыступіць да будовы абароннае сыстэмы лейзараў высокае энэргіі перад 1982 годам. Для досьледаў і ўдасканаленьня гэтае зброі на наступны год запатрабавана ад ураду 184 міліёны даляраў.

Як эфэктыўныя ёсьць лейзары? Цяпер хімічныя лейзары дзеляцца на два роды: пастаяннае хвалі й пульсавыя. Лейзары высокае энэргіі пастаяннае хвалі маюць засяг зьнішчэньня да двух кілямэтраў, пульсавыя-ж сягаюць далей. Апошнія маюць большую канцэнтрацыю сілы для зьнішчэньня слабога месца аб'екту.

Рэчнік амэрыканскага Дэпартаманту Абароны асьветчыў, пасьля выпрабаваньня, што "яно паказала, што мы разумеем як абаронная сыстэма лейзараў дзейнічае й шматлікія элемэнты складаных праблемаў ейнага ўжытку. У гэта ўваходзіць здольнасьць стварэньня слупа высокае энэргіі, здольнасьць накіраваньня яго на слабы пункт мэты дый веданьне, колькі энэргіі патрэбна для яе зьнішчэньня".

Некаторыя Амэрыканцы мяркуюць, што Савецкі Саюз мог зрабіць большы прагрэс у вынаходзтве лейзараў высокае энэргіі, чымся Злучаныя Штаты. Згодна Дэпартаманта Абароны, СССР выдае больш сродкаў на праграму стварэньня лейзараў высокае энэргіі.

Гэткім чынам, як з гэтага бачым, зусім новая зброя, якую некаторыя часамі называюць максымальнай, ужо не ў пялёнках, а прайшла першае выпрабаваньне.

## ПАРТЫЗАНСКІ МАРШ

Словы невядомага аўтара

Старадаўняя мэлёдыя

Гарм. В. Качанскага

Павольна, маршам



I. Сьля-за-мі край у-весь сьця-



ка- е, пры-гон зноў Бе-ла-русь цяр-



піць руч-ча-мі кроў бра-тоў сплы-



ва- е, чу-жын-цы хо -чуць нас зду-шыць,



зду-шыць. І -дзём у дзень, ідзём на-



ча- мі, сы-ны мы пуш-чаў і ля-соў. І-



дзём бун-тар-ны-мі шля-ха-мі зьніш-ча-ем,



го-нім па-ла- чоў.

Сьлязамі край увесь сьцякае,
Прыгон зноў Беларусь цярпіць,
Руччамі кроў братоў сплывае,
Чужынцы хочуць нас здушыць.

Ідзём у дзень, ідзём начамі,
Сыны мы пушчаў і лясоў.
Ідзём бунтарнымі шляхамі,
Зьнішчаем, гонім палачоў.

Ня плач, сястра, ня плач, матуля!
У бой адважны сын пайшоў.
Здабудзем волю штыком, куляй,
Заплацім катам з барышом.

Ідзём у дзень...

Хай гром грыміць, маланка зьзяе,
Не загубіць Беларусоў.
Ужо зару дзень запаляе,
Мы выйдзем хутка ізь лясоў.

Ідзём у дзень...

Паможа Бог, бо праўда з намі,
Ня будзе вораг панаваць.
Адважна ў бой, а над трунамі
Край родны будзе расьцьвітаць.

Ідзём у дзень...

*Узята із "Зборніка песьняў беларускага жаўнера" Выд. Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, Саўт Рывэр, Н.Дж. 1975*

# ГАРАВАТКА

## *Кніга 3-я*

## *ВАС ЧАКАЕ ЗЯМЛЯ*

*Зьмяшчаем яшчэ часьць, з разьдзелу 17-га, кнігі 3-й "Вас чакае зямля", з Акулавай "Гараваткі".*

*Рэд.*

Гучна-гарластае "Москаў капут!" хрыпам захрасла ў выцьці васеньняе золі й сьнежных віхураў ды пасьля заглохла ў гуле гарматаў першай вялікай бітвы, каторая нарадзіла "Даёш Бярлін!" Вестка пра вялікую апаразу "Дранг нах Остэн" маланкай абляцела захутаныя ў глыбокія сьнягі палі й гумны, закаваныя ў лёд воды ды перабралася на захадні бэк фронту. Зусім абыякавы да лёсу чужой і непераможнай дагэтуль арміі селянін ківаў са зьдзіўленьня галавой, недавер на твары.

– Дзе-ж, такая сіла, Божа мой! А глядзі во!

Наўздагон нечаканай вестцы перапаўзьлі на гэты бок агнявое лініі й дэталі вялікае бітвы. Выявілася, што шчодрыя дый ці не найбольшыя заслугі ў тым дужаньні прыпісваліся гэтта ведамаму яшчэ з напалеонаўскіх часоў генэралу Марозу. Гэта ён, казалі, а ня хто іншы спаралiжаваў ваенную машыну, гэтак дбайна сплянаваную й выпрадукаваную там, дзе некалі былі змайстравалі вялікую Бэрту.

Зусім накш выглядаў паядынак асілкаў паводля галасоў з таго боку, што з захапленьнем і барабаншчынай апавядалі пра яго па радыё. Тлумачэньне гэнае, ведама, нарадзілася калі не на самым "гэройскім" версе дык непадалёк яго. Генэрала Мароза, як на дзіва, зусім ня згадвалі, быццам ён у гэнай мясасечцы ніякага ўдзелу ня браў, затое перамога, як мага пераўвялічаная, прыпісвалася заслугам "доблiснай" Чырвонай Арміі дый перадусім ніколі ані на каліва непамыльнаму й "геніяльнаму айцу народаў", таму самаму, каторы на працягу апошніх пару гадоў вялікі хаўрус із "саюзнай Вялікай Гірманіяй" дзяржаў і народнае дабро дзень і ноч туды пхаў. Такую інтэрпрэтацыю, з прычыны натуры свае, генэрал Мароз ніяк ня мог запярэчыць, але гэта зусім не азначала, што маўчаньне ягонае знакам згоды было.

Недатарнаванай да зімы зброяй не наваюеш, але й акалелыя ўжывальнікі яе мелі-б мець цёплыя плечы й непамарожаныя канцавіны. Таму пільны зрок нямецкіх ваенных верхаводаў спыніўся на мясцовых жыхарах і спасьцярог на сялянскіх плячох кажухі. Уміг нарадзіўся кліч: кажухі на ратунак! А мясцовыя, як рэха гэнаму клічу: кажухамі адбой генэралу Марозу!

Апрануўшыся ў адпаведную канцылярную хворму, загад разросься й расплыўся па занятай зямлі. Ніякае ўзнагароды за кажухі новы гаспадар ня суліў. Вынікам таго новыя й найлепшыя кажухі з рэкорднай хуткасьцю зьнікалі ў зусім тайных і бясьпечных месцах, быццам-бы да часу, пакуль распагодзіцца. Народ перапрануўся ў латанае, абношанае-абшмулянае стар'ё.

Нашто ўжо кемлівы й выпрабаваны жыцьцём селянін, але гэтта, казалі людзі, крыху падшванкаваў, бо ўсё-ж чужынцу скубануць даўся. А на пацьверджаньне гэтага ў Літоўцах апавядалі, што быццам ня хто іншы, а сама дападлівая пахатуха Аўдоля Кмітава бачыла як "на хронт" кажухі вязьлі. Ляцеў, бачыце, пузаты нямецкі транспартны самалёт якраз у той час, як Аўдоля не за чапялу трымалася, а выбегла паглядзець чаго доктараў Мурзік так упрысядкі брэша. I трэба-ж...

– Павер-жа, мілая ягодка мая, гэта-ж ляціць, каб яго пранцы, гэты іраплан гэтак саўсім нізка. Дык віджу, матляецца так, высунуўшыся праз вакно, даўгое рукаво кажуха. Дальбог, ягодка мая міленькая, каб я з гэтага месца ні зышла, як ні кажу праўды. Гэта-ж Неміц, знаіш, мусіць на хронт тыя кажухі павёз, каб яго гаручка!

Разумнікі кпілі, што акупанту ўдалося надта мала, дый то старых і палатаных кажухоў у сялян вымантажыць і што стар'ё гэнае ня надта пасобіць зь лютым генэралам Марозам змагацца.

Дуня й Янук ужо добра пратоптанай у сьнезе лясной сьцежкай са школы дамоў ішлі. На захаднім гарызоньце вынырнула з-за хмараў сонца, уміг ператварыла сьнег і вакольную пушчу ў яркую ірдзістую бель. Мароз прыемна пад падэшвамі скрыпеў. Сьцюжа праймала Янука праз палатаную парудзелую тужурку-абносак. Адно прыемным цяплом трымалася на галаве палінялая вушанка. Як разумна зрабіў, –думаў юнак, – што болей анучаў на ногі ў дзіравыя боты накруціў. Забясьпечаная некалі камбедам Дуня Макатунішка вызірала зачырвоненым марозам носікам з баслыка цёплага, суконнага сіняга пальта. На нагах у яе былі валёнкі.

Сьцюжа замінала думаць. Але перад Януком усё яшчэ стаяў, зраўнаважана-аўтарытэтным голасам тлумачыў настаўнік Сабалеўскі: – Для Палякаў Люблінская вунія трыумфам завяршыла дзясяткі гадоў натужанай працы іхнага клеру, магнатаў і шляхты. Наш народ пасьля агледзеўся, што для яго тая самая вунія, прымусам яму накінутая, дамавінай сталася. Яна навосьцеж адчыніла Палякам дзьверы для палянізацыі нашай бацькаўшчыны. Па ўсей зямлі нашай паступова але няўхільна пачалі гаснуць агні беларускай культуры, самастойнасьці, нацыянальнага жыцьця, якое тады было...

"Дамавіна, дамавіна", – слова трывала, паўтаралася, большай сьцюжай чым вакольная зіма пагражала.

Адчыняліся вочы, перад якімі вырастала трагічная панарама ўпадку вялікага народу. Захаднія хіжакі старанна й рупліва плянавалі й капалі магілу, рыхтавалі дамавіну. Дый ці толькі захаднія? Сабалеўскі-ж цяпер адно да Люблінскае вуніі дабраўся. А там далей з усходу дзяржыморда абаронныя ўмацаваньні Вялікага Княства праломіць. Пад нагайкай "чужака-дзікуна"

трываць будзе нязносны прыгон і павядуць на сьмерць найлепшых сыноў і дачок беларускіх далёкія этапы.

– А чаго ты, Янучок так задумаўся?

Блізкі голас Дуні, тут-жа праз вушанку, заўсёды прыемны й мілы, вярнуў юнака да рэальнасьці. Дзяўчына ўзяла яго пад руку, прыхілілася, а васількі-вачаняты із тэй ведамай і скрыванай іскрынкай гарэзьлівасьці сквапна шукалі на Януковым твары прычыны задуманасьці.

– Ды нічога, – буркнуў адчэпнага Янук.

– Ну скажы, скажы! Пра што думаў? – налягала дзяўчына.

Наблізіліся ейныя вусны, тыя самыя, што некалі ў ханюшыне адурманілі. Але цяпер яны ня прынаджвалі, а загадвалі.

– Думаў аб Люблінскай вуніі, – адказаў неахвотна Янук. – А яшчо думаў пра дамавіну...

– Ха-ха-ха! – разрагаталася дзяўчо. – А я думала, што ён... А чаму пра дамавіну?

– Ну знаеш, як Сабалеўскі казаў. Ты-ж на лекцыі была, мусіць, слухала.

– Янучок, Янучок, я-ж табе казала, што як будзеш многа надта думаць дык скора састарэешся.

Голас лёгкі, жартаўлівы, тварык ясны, марозікам зачырвонены-прыкрашаны. Гэта ня тое, што іншым разам надзьмутасьць ці ў вачанятах-васількох колкасьць. І здаецца знаеш яе ўсю, наскрозь, але вось адкрываеш новае ў наступным павароце.

– Ты, Янучок, ня чуў колька дзіравы шляхціц кажухоў сабраў?

Ад дамавіны да кажухоў. Зручны скок. Цяперашняе, калі навет і ня грэе, дык усё-ж цела бліжэй ад тэй халоднай даўнай, з выразным акцэнтам Сабалеўскага, дамавіны.

Роўным скрыпам гаманіў пад нагамі мароз, брылянтамі зьзялі на галінах сьняжынкі і абліваючы твар цёплым дыханьнем, штурхала ў плячо Дуня.

– Ні знаю. Відзіў, як зь нейкім Немцам на развалнях жабраваў. Да нас захадзіліся, але зь фігай бацька адправіў. А навошта мне ведаць?

– Я ўчорака да цёткі Вульляны забеглася, маці мяне па нешта паслала. Казала Вульляна, што ім адзін кажух дала. Дый знаеш чаму? Прывёз дзіравы шляхціц паштоўку ад ейных сыноў-галубкоў, каторая, мусіць, праз Чырвоны Крыж прыйшла.

– Што ты кажаш? Дзяцюкі жывыя?

– Ага, жывыя. Дый разам яны, у адным абозе сідзяць. Дык Вульляна так узрадавалася, – жарты гэта, яна-ж вочы сабе за гэтыя гады выплакала, – што таго Немца й дзіравага шляхціца чаго з радасьці не расцалавала. Таму, мусіць, лёгка было ад яе кажух вымантажыць.

– Няўжо-ж...

– Кажух гэны, казала, падношаны, Паўлюкоў. Наце вам, кажух майго сына-галубка, кажа, ніхай вам Бог за такую вестачку здаровейка ні пашкадуіць...

– А ты паштоўку тую чытала?

– А як-жа. Зьверху нейкі "сталяг" і нумар напісана. Гэта казала Вульляна, што гэта ў каторым абозе яны сідзяць, ейныя сыны-галубкі. А тады якіх можа пятнаццаць словаў усяго, бо мусіць болей ні даюць пісаць. "Дарагая мама,мы твае сыны Антон і Паўлюк цяпер у лягеры палонных. Добра маемся, здаровыя, наетыя. Ні бядуй, вернемся". Дый падпісаліся. От і ўсё.

– І напісана так, "добра маемся"?

– Так. Я тры разы прачытала, а цётка Вульляна дык яна ўжо напамяць тыя словы знаіць.

– Можа так добра маюцца, як гэтыя ў Бярэзьвечы?

– Што ты, ні дай Божа. Кажу, што чытала. Ды гэтыя-ж бальшавіцкія, ім ніхто ні памагаіць, дык тольк Неміц голадам морыць ды страляіць. А нашых дзяцюкоў Палякі мабілізавалі. Казаў Вульляне дзіравы шляхціц, што польскія палонныя, каторыя ў нямецкіх абозах, дык з-за граніцы, значыцца з Англіі, пасылкі праз Чырвоны Крыж дастаюць. А там у іх і ежа, і папяросы, і брытвы, дый навет шакалад... От як.

– Дзякуй Богу за гэта. Кажаш, пішуць, што вернуцца?

– Ага, сама чытала.

## З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

*ТКАЧОЎ М.А., "Замкі Беларусі (13-18 ст.ст.)", Рэд. Ф.В. Барысевіч, Менск, Выд. "Полымя" 83 б. зь ілюстрацыямі.*

*ТКАЧОЎ М.А., "Абаронныя збудаваньні заходніх зямель Беларусі 13-18 ст.ст.", Рэд. П.А. Рапапорт, Менск, Выд. "Навука й Тэхніка", 1978, 144 б. зь іл. (АН БССР. Ін-т гісторыі).*

"Старажытная архітэктура зьяўляецца наед'емнай часткай нацыянальнай беларускай культуры. Асабліва месца ў ёй займаюць помнікі ваеннага дойлідства – старадаўнія замкі і ўмацаваньні гарадоў. З поўным правам іх можна лічыць актыўнымі ўдзельнікамі многіх бітваў беларускага народу з ворагамі, непасрэднымі сьветкамі нялёгкіх перамогаў. Гэта ня толькі помнікі патрыятызму, гэраічнай барацьбы й калясальнай працы, укладзенай у справу абароны кроўных інтарэсаў роднай зямлі. Адначасова гэта і яркае сьветчаньне высокай культуры нашых продкаў, стварыўшых заправдныя архітэктурныя шэдэўры... Сьцены заімшэлых замкаў, пасечаныя войнамі й часам, сталі старонкамі летапісу сівых вякоў, па берагі перапоўненых гэраічнай барацьбой беларускага народу за сваё шчасьце й незалежнасьць. За многія стагодзьдзі сваей гісторыі Беларусы спазналі нямала. Лёс іх зямлі вырашаўся ня толькі ў Грунвальдзкай бітве з Крыжакамі ў 1410 годзе, або з Татарамі пад Клецкам у 1506 годзе... Магутныя сьцены замкаў ня раз чулі сыгналы-поклічы ваенных трубаў, сьвіст стрэлаў і грукат гарматаў. Сярод мора вайны, якое раз-пораз затапляла краіну, замкі ўзвышаліся няпрыступнымі астравамі, дзе зьбіраліся сілы змаганьня й каваліся будучыя перамогі..."

Гэткімі прыгожымі словамі адкрывае аўтар згаданыя вышэй працы, прысьвечаныя замкам і іншым абаронным збудаваньням і ўмацаваньням заходніх земляў Беларусі 13-18 стагодзьдзяў, гэта значыць пэрыяду Вялікага Княства Літоўскага. Як ведама, першай працай, якая абагульніла ўсе весткі з ваеннага дойлідзтва заходняй Беларусі 13-18 стагодзьдзяў, была праца Міколы Шчакаціхіна "Нарысы зь гісторыі беларускага мастацтва", т. 1, выдадзеная 50 гадоў таму, у 1928 годзе, праца, якая і вызначыла галоўныя напрамкі яго разьвіцьця. Далейшае вывучэньне сярэднявяковых абаронных збудаваньняў пачалося толькі пасьля 2-й Сусьветнай вайны, калі помнікі беларускага ваеннага дойлідзтва сталі беспасрэдным і галоўным аб'ектам дасьледваньня архітэктара А. Міцяніна, які прысьвяціў ім шэраг артыкулаў і працаў, а таксама іншых мастацтваведаў, археолёгаў і гісторыкаў, якія зрабілі вялікі ўклад у справу вывучэньня розных аспэктаў помнікаў ваеннага дойлідзтва й абароны гарадоў Беларусі.

Першая праца Міхася Ткачова адрасуецца шырокаму колу краязнаўцаў, настаўнікам, вучням, студэнтам, асобам, што адказваюць за ахову помнікаў, а таксама ўсім, каго хвалюе й цікавіць мінулае Беларусі. Кніга "Абаронныя збудаваньні..." разьлічана больш на навуковых супрацоўнікаў, гісторыкаў, археолёгаў, выкладчыкаў школаў і таксама ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі. Кніга "Замкі Беларусі..." складаецца з чатырох разьдзелаў: 1. "Вежы-данжоны на Беларусі" (Камянецкая вежа); 2. "Замкі агульнадзяржаўнага прызначэньня" (Наваградзкі, Горадзенскі, Лідзкі і замак у Крэве); 3. "Прыватнаўласьніцкія замкі 15-18 стагодзьдзяў" (Мірскі замак, замкі ў Любчы, Геранёнах, Быхаве, замкі з бастыённымі ўмацаваньнямі – Заслаўскі, Нясьвіскі, Гальшанскі, замак у Смалянах і ў Гайцюнішках) і 4. "Умацаваныя храмы" (Полацкая Сафія, Супрасьлеўская Дабравешчанская царква, Сынкавіцкі храм, Маламажэйкаўская царква, Камайскі касьцёл і Кальвінскія зборы). Апрача гэтага аўтар падае "Сьпіс помнікаў ваеннага дойлідзтва Беларусі 9-18 ст." (у Сьпісе фігуруе 105 помнікаў), кароткі "Тлумачальны Слоўнік" і "Бібліяграфію" (34 пазыцыі). У другой кнізе аўтар на багатым фактычным матар'яле, выкарыстоўваючы шырока архіўныя й пісьмовыя крыніцы, паказвае вытокі беларускага ваеннага дойлідзтва, характарызуе асноўныя этапы яго разьвіцьця, сувязі і ўзаемаўплывы з дойлідзтвам блізкіх і далёкіх суседзяў. Расказвае пра разьвіцьцё ваеннага дойлідзтва заходніх земляў Беларусі ў 13 – першай палове 14 ст. (вежы-данжоны й замкі-кастэлі), пра замкі агульнадзяржаўнага прызначэньня другой паловы 14-га – 17 ст. (Наваградзкі й Горадзенскі), гаворыць пра прыватнаўласьніцкія замкі канца 15-га – 18 ст. і пра абаронныя збудаваньні гарадоў (інкастэляваныя храмы, абаронныя касьцёлы й рэфармацкія зборы). Значную ўвагу Ткачоў удзяляе замкам Горадзенскаму, Наваградзкаму, Лідзкаму, Крэўскаму й іншым, дзе аўтар рабіў археалёгічныя раскопкі, а таксама прыстасаваным да абароны Маламажэйкаўскай і Сынковіцкай цэрквам, Камайскаму касьцёлу й іншым помнікам гэтага раёну.

*(Заканчэньне на бач. 8-й)*



*"Мірскі замак вызначаны як база для стварэньня мастацкай прафэсійна-тэхнічнай школы, у якой адначасова будзе вучыцца 720 чалавек."*

*"Голас Радзімы", 9.11.78 г.*

Як бачым, аўтар ахапіў у сваіх працах вялікую колькасьць старажытных ваенна-абаронных помнікаў Беларусі, створаных, як ён кажа, "руплівай, мазольнай працай нашага народу", якія ня толькі адлюстроўваюць ягонае гістарычнае мінулае, патрыятызм і гэраічнае змаганьне ў абарону роднае зямлі але, якія, адначасова зьяўляюцца яскравым сьветчаньнем таленту й высокай культуры Беларусаў далёкага мінулага. Шкада толькі, што ён ня ўключыў такіх выдатных помнікаў беларускага ваеннага дойлідства пэрыяду Вялікага Княства Літоўскага, як Верхні й Ніжні замкі ў Вільні, замак у Троках, Віленскія цытадэльныя муры й іншыя, якія сяньня знаходзяцца на тэрыторыі далучанай да Лятувіскай ССР, але належаць да абаронных збудаваньняў заходніх земляў Беларусі. Віна тут, бясспрэчна, на аўтарава, бо паводля гістарычнай схемы, выпрацаванай у Маскве, і якой мусяць прытрымоўвацца беларускія вучоныя, Вільня й Віленшчына ў ніякае вывучэньне Беларусі ня ўключаюцца. Затое пазваляецца Лятувісам разглядаць замкі Беларусі, такія як Лідзкі, Крэўскі, Наваградзкі й інш., нібыта, "у якасьці аналёгіяў зь літоўскімі помнікамі".

Другім недахопам, калі так можна сказаць, працаў Міхася Ткачова ёсьць тое, што яны выдадзеныя малым тыражом, асабліва кніга "Замкі Беларусі", тыраж якой адно 1 050 экзэмпляраў. Калі ўзяць пад увагу той факт, што, як цьвердзіць "Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя" (гл. т. 12, бач. 390) "У БССР больш за 20,3 тыс. бібліятэкаў усіх сыстэмаў і ведамстваў" і што ў Беларускай ССР больш за тысячу гісторыкаў, дык лічба гэта проста зьдзеклівая, асабліва цяпер, калі Рэспубліка зьбіраецца шумна адзначаць 60-годзьдзе свайго існаваньня. Але й тут ня віна аўтара. Гэта бо рэзультат русыфікацыйнай палітыкі, праводжанай кампартыяй у "сувэрэннай" савецкай рэспубліцы. Мы павінны быць удзячныя Міхасю Ткачову ня толькі за тое, што ён гэтыя працы напісаў і выдаў а і за тое, што ён іх выдаў у роднай мове, зьява даволі ўжо рэдкая ў гэтай галіне беларускае навукі, дзе ўсё часьцей ідзе пераключэньне на мову расейскую.

Гэты кароткі агляд працаў Ткачова мы пачалі цытатамі зь ягонага ўступу да іх. Хацелася-б і закончыць яго словамі ўзятымі з Заключэньня, дзе аўтар, між іншага, піша: "Нескаронасьць і гордае свабодалюбства Беларусаў у найцяжэйшых войнах сваімі карэньнямі заходзіць у глыбіні гісторыі, у тыя пласты, зь якіх мы чэрпаем сілу, веру, надзею і прагу жыцьця. Веру ў будучыню мы знаходзім у гісторыі свайго мінулага і ў рэальнасьці сёньняшніх вірлівых падзеяў, зьнітаваных жыцьцём у адно непарыўнае цэлае".

Прыгожыя, глыбокія словы, якія і мы тут на чужыне ніколі не павінны забываць...

*В. Сенкевіч*

## ПАГЛЫБЛЯЕЦЦА АЛІМПІЙСКІ КРЫЗЫС

Даўно ўжо ясна было, што Масква плянуе Алімпійскія Гульні 1980 году як грандыёзны прапагандавы паказ. Таксама ясным было, што каб атрымаць адпаведна пажаданы эфэкт гэтага на цэлым сьвеце, Масква мае абмежаваць удзел замежных масавых сродкаў камунікацыі, паколькі магчыма трымаць дружыны ўдзельнікаў пад кантроляй, а цяпер, як выяўляецца, навет загадваць прысутнай аўдыторыяй у Маскве.

Саветы цяпер сур'ёзна заняліся апошнім праектам. Масква плянуе ўстанавіць нацыянальныя квоты ўдзельнікаў, якім дазволена будзе прыехаць у Расею на Алімпійскія Гульні. Паколькі можна ўстанавіць, такое нешта здарыцца першы раз у гісторыі Алімпійшчыны.

Згодна артыкулу Дэйвіда К. Вілс, зьмешчанага 18-га кастрычніка ў 'Christian Science Monitor', будзе ўпушчана ўсяго 300 тысяч турыстаў. Паказальна, што з гэтага ліку адно сто тысяч прыедзе з Захаду. Звыш дзьвесьце тысяч будзе з камуністычных краінаў і Трэцяга Сьвету.

Гэта адно пачатак. Квота абмяжоўвае Злучаныя Штаты да дзесяцёх тысяч, а 50 тысяч будзе ўпушчана з цэлай Заходняй Эўропы.

Саветы выясьняюць, што ўладжаньні ў Маскве й іншых расейскіх алімпійскіх гарадох ня здольныя справіцца з большым лікам. У гэтым ёсьць пэўная доза праўды. Але недахоп уладжаньняў першае клясы ня ёсьць асноўнай прычынай савецкіх квотаў.

Асноўнай прычынай ёсьць мэта паказу. Загадчыкі маскоўскіх гульняў хочуць, каб некамуністычны сьвет у вачох сьвету паказаўся як аблажаная, абкружаная меншасьць.

На пачатак, Захад будзе перавышаны лікам удвая турыстамі з камуністычнага й Трэцяга Сьвету. Дзьве трэція, г. зн. бальшыня будзе грунтоўна выкарыстана на сцэне. Апошняя адна трэцяя падлягае некатораму выкарыстаньню й падбору. Навочны паказ праз электронныя сродкі будзе мець вялікі эфэкт: малая аўдыторыя Амэрыканцаў і Заходніх Эўрапэйцаў будзе адно капляй у моры камуністаў і Трэцяга Сьвету.

Зьвяртаючыся ў сьвет рэальны, Злучаныя Штаты зьяўляюцца *другой* супэр-сілай. На экране галоўнай супэрсілай будзе Савецкі Саюз. Загадчыкі відовішча пастараліся, каб Злучаныя Штаты на вока зраўняліся, прыкладна, з Бэльгіяй.

Іншая прычына устанаўленьня квотаў: савецкі апарат кантролі ня справіцца. Таму найлепш асвоеныя турысты з камуністычнага й Трэцяга Сьвету. Прысутнасьць людзей з вольнага сьвету будзе абмежаваная.

***National Review***, 24.11.78

## ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Д-р В. Тумаш - 11.26, А. Слонімскі – 11.81, М. Нікан - 26.00, К. Акула (з продажы) – 7.00, С.Гутырчык (з продажы) – 18.50, А. Качан (з продажы) – 27.00, д-р Л. Трусэвіч – 25.00, В. Сенкевіч – 24.00, Я. Каваленка (з продажы) – 17.50

Разам – 168.07. Вялікае дзякуй!